# Газета для вас

23 — 29 сакавіка 2001 г.

№ 12 (275)

Грамадска-палітычны штотыднёвік, выдаецца са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН




## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:



# МЫ ХОЧАМ ЕСЦІ ЯКАСНЫ ХЛЕБ

Гадоў 20 у Івацэвічах вядуцца размовы аб неабходнасці пабудовы хлебазавода. 10 гадоў таму яго і пачалі будаваць, узвялі каробку і нават некаторае абсталяванне закупілі. На гэтым і размовы, і будаўніцтва хлебакамбіната закончылася. Затрачаныя сродкі нібы ў пясок пайшлі...

А на існуючым старым хлебазаводзе, якому ўжо 40 гадоў, людзі (у асноўным жанчыны) працуюць дзедаўскімі метадамі, уручную загружаючы і разгружаючы печы па выпечцы хлебабулачных вырабаў. А гэта ні многа, ні мала, а 5,5 тоны хлеба, батонаў, булак у змену. Моцныя ж рукі патрэбны хлебапёкам!

Нягледзячы на іх стараннi хлеб, здараецца, не задавальняе пакупнікоў па якасці.

Мы не сталі фатаграфаваць будынак, а дакладней каробку новага хлебазавода. Нічога, акрамя суму, яна не выклікае. Зрабілі фота на старым хлебазаводзе, каб чытачы хоць у нейкай меры мелі ўяўленне аб івацэвіцкай тэхналогіі выпечкі хлеба.

**(Працяг тэмы на 3-й стар.).**



Аляксандр ГОРБАЧ.





## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Заканчваецца падпіска на перыядычныя выданні на II квартал 2001 года.**

**Падпісная цана на "ГАЗЕТУ ДЛЯ ВАС" складае:**

**<u>для індывідуальных падпісчыкаў</u> (індэкс 63834) на адзін месяц — 710 рублёў, на квартал — 2130 рублёў, на паўгода — 4260 руб.**

**<u>для ведамаснай падпіскі</u> (індэкс 64145) на адзін месяц — 1379 рублі, на квартал — 4137 рублёў, на паўгода — 8274 руб.**

**Газет для вас выдаецца шмат. "ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС" — адна. Не забудзьцеся падпісацца на яе.**

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Лидеры профсоюзов обратились в МОТ

**Как стало известно БелаПАН, вечером 19 марта состоялась встреча премьер-министра Беларуси Владимира Ермошина и председателя Федерации профсоюзов Белорусской (ФПБ) Владимира Гончарика с министром юстиции Геннадием Воронцовым.**

Министр проинформировал об итогах своих консультаций с руководством Международной организации труда (МОТ), которые прошли в Женеве в конце февраля и касались жалобы белорусских профсоюзов, направленной в МОТ летом 2000 года. Встреча Ермошина, Гончарика и Воронцова связана с предстоящим рассмотрением этой жалобы в Комитете по свободе ассоциаций МОТ. Заседание Комитета запланировано ориентировочно на 28-29 марта. Ожидается, что по его результатам МОТ вынесет заключение относительно ситуации с правами профсоюзов в Беларуси.

## Глава ЦИК — против

**Председатель Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов Лидия Ермошина выступает против подготовки наблюдателей за выборами за счет иностранных средств.**

Об этом глава ЦИК заявила 19 марта на пресс-конференции в Национальном пресс-центре. "Международные средства не могут использоваться на подготовку и проведение выборов, потому что это расценивается, как вмешательство во внутренние дела государства", - сказала председатель Центральной комиссии. Это, по мнению Лидии Ермошиной, общепринятая международная практика.

По ее словам, подготовка наблюдателей за счет внешних источников финансирования - "это тоже использование иностранных средств для подготовки и проведения выборов".

## "Союзный телевизор" и Павел Бородин

**Задержание в Нью-Йорке Павла Бородина вызвало сокращение финансирования программы "Союзный телевизор", утверждает генеральный директор промышленного предприятия "Квант" Геннадий Капралов.**

"Квант" уже не первый год успешно сотрудничает с рядом белорусских предприятий по осуществлению этой совместной программы. В прошлом году, рассказал Г.Капралов российским журналистам, на приобретение оборудования под телевизор "Союз" было получено 10 миллионов рублей вместо обещанных 25 миллионов. А в этом году ситуация еще сложнее. Планы "Союзного телевизора" получить в 2001 году 280 миллионов рублей рушатся. Дело в том, что интересы "Союзного телевизора" лоббировал до недавнего времени госсекретарь Союзного государства. Его задержание моментально сказалось и на объеме финансирования совместного проекта.

## Монастырь реставрируется

**Около 90 миллионов рублей будет направлено в нынешнем году на реставрацию памятника архитектуры XVII-XIX веков Жировичского Свято-Успенского монастыря.**

В беседе с корреспондентом БелаПАН председатель Комитета по реставрации и консервации памятников при Министерстве культуры Василий Обламский отметил, что в недавно утвержденную правительством программу возрождения Жировичского монастыря и находящегося на его территории комплекса зданий Минской духовной академии и семинарии, включена реставрация Успенского собора с учебным корпусом, Богоявленской и Крестовоздвиженской церквей и монастырской колокольни.

## Растут тарифы

**19 марта в Беларуси выросли тарифы на услуги внутриреспубликанской связи.**

В частности, стоимость минуты разговора по квартирному телефону с абонентом того же населенного пункта увеличилась с 2,14 до 2,57 рубля, внутри одной области - с 6 до 7,5 рубля, между областями - с 12 до 15 рублей. Тарифы для предприятий и организаций повысились соответственно с 3,24 до 3,89, с 6,8 до 8,5 и с 13,6 до 17 рублей.

**(БелаПАН).**

# ☎ ПРА ДЭМІСЕЗОННЫЯ ПРАБЛЕМЫ З ГАРАЧАЙ ВАДОЙ

**"Газета для вас?" Ці не заўважылі вы, што ў Івацэвічах гарачая вада падаецца толькі раніцай і вечарам? Няўжо зараз — а на вуліцы толькі сакавік — нас пачынаюць ужо абмяжоўваць?**

**Віктар АСОБІК, г. Івацэвічы.**

**На пытанне нашага чытача адказвае Аляксандр Сарока, намеснік генеральнага дырэктара Івацэвіцкага РПА ЖКГ:**

— Нічога страшнага не адбываецца, і тое, што днём у некаторых мікраёнах г. Івацэвічы адсутнічае гарачая вада (напрыклад, на вуліцах Шаўчэнка, Дэпутацкай), не сведчыць аб тым, што пачынаюцца абмежаванні. Справа ў іншым.

Паколькі тэмпература паветра днём павышаецца да васьмі градусаў, то ацяпленне дамоў у дзенны час прыпыняецца. Робіцца гэта ў мэтах эканоміі паліва. На многіх вуліцах г. Івацэвічы падача гарачай вады ажыццяўляецца разам з ацяпленнем. На гэтых участках знаходзяцца 124 цеплавузлы, і немагчыма кожны дзень іх перакрываць і адкрываць. Калі быў бы халодны сакавік (тэмпература днём ніжэй, чым +8°С), то ніякіх пытанняў не ўзнікла б.

Але гэта тычыцца не ўсяго горада, на вуліцы Савецкай, напрыклад, дзе іншая сістэма цеплазабеспячэння, сітуацыя не змянілася. Дарэчы, гарачая вада — праблема не толькі нашага райцэнтра, але многіх іншых гарадоў. У савецкія часы была распрацавана так званая "гостовская" сістэма цеплазабеспячэння, якой мы карыстаемся і зараз.

**Гутарыў Аляксандр ГОРБАЧ.**

## Их приравняли к стеклотаре

### Цены на Тузика и Мурку возможно вырастут

**Предприятие по благоустройству города Пружаны готово ходатайствовать перед райисполкомом с просьбой увеличить срок действия постановления № 1470, согласно которого к процессу отлова и уничтожения бродячих собак и кошек могли бы подключиться и рядовые граждане (за сдачу собаки — 1000 рублей, кошки — 300 рублей).**

Как сообщили "Газете для вас" сотрудники этого предприятия, за три месяца с момента принятия распоряжения, жители Пружан сдали сюда 70 животных (29 кошек и 41 собаку). В последнее время активность горожан снизилась (вначале пружанцы действовали с таким размахом, что позавидовал бы сам Полиграф Полиграфович Шариков). Сотрудники предприятия объясняют это тем, что инфляция "подтеребила" эту тысячу рублей, она не так заманчива, как три месяца назад. А потому есть смысл увеличить цены.

За всё время действия распоряжения на предприятие по благоустройству обратились две жительницы г. Пружаны с просьбой вернуть им их питомцев. Они заплатили штраф за нарушение правил содержания животных. Напомним, что причина появления этого распоряжения — рост заболеваний бешенством.

**Александр ГОРБАЧ.**



Александр Воронцов

## Махинация раскрыта

**ДРОГИЧИН—БЕЛООЗЁРСК.** Для того, чтобы сегодня иметь жильё, надо или построить его, или купить. Но можно и по другому поступить, если очень хочется...

Секретарь Именинского сельсовета Дрогичинского района и паспортистка Белоозёрского ПП ЖКХ путём внесения ложных сведений в документы способствовали незаконному получению права пользования квартирой в Белоозёрске. Однако махинация была раскрыта сотрудниками ОБЭП Березовского РОВД.

**Валентина СТРОК.**

## Злачыннасць расце

**ДРАГІЧЫН.** Пацверджаннем гэтага з'яўляюцца лічбы. Так, у мінулым годзе на судовы разгляд паступіла 190 спраў. Гэта на чвэрць больш, чым у 1999 годзе. Рост колькасці крымінальных спраў выклікана значным павелічэннем крадзяжоў дзяржаўнай і асабістай маёмасці грамадзян.

Летась за розныя злачынствы асуджана ў раёне 183 чалавекі. У 1997 годзе іх было 134, у 1998 — 144, у 1999 — 162 чалавекі.

Вырасла злачыннасць сярод непаўналетніх, што асабліва трывожыць. Калі ў 1999 годзе іх было восем, то летась ужо асуджана 23 падлеткі, прытым двое з іх — да пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў калоніі.

Хвалюе і тое, што з ліку асуджаных летась 20 чалавек — рэцыдывісты.

Калі гаварыць пра грамадзянскія справы, то і тут назіраецца значнае павелічэнне. Летась іх разглежджана 490, на 63 больш, чым у 1997 годзе.

**Галіна АЛЕКСІЕВІЧ.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на рынках нашага рэгіёну па стану на 21.03.2001 г. (у руб. за адзін кілаграм):**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын |
|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2500 | 2500—4000 | 2500—3600 | 2500—3300 | 2400—3000 |
| Сала салёнае | 1900—2500 | 1800—2800 | 2500 | 2600 | 2300—2500 |
| Алей (1 л) | 750—1000 | 700—1100 | 750—950 | 800—1100 | 900—1200 |
| Яйкі | 750—900 | 900—1000 | 800 | 800 | 1000—1100 |
| Малако (3 л) | 600 | 600 | 600 | 600 | 650—670 |
| Шпроты | 450 | 400—420 | 450—480 | 400—450 | 500—550 |
| Масла сметанк. | 1900 | 2000 | 2000 | 2000 | 2000 |
| Бульба | 80—100 | 100—120 | 100 | 100—120 | 120 |
| Цыбуля | 200 | 220 | 250 | 200 | 250 |
| Морква | 200 | 200—300 | 180 | 180 | 190 |
| Капуста | 100 | 300 | 80—200 | 100—120 | 100—120 |
| Грушы | 1600 | 600—1000 | — | — | — |
| Буракі | 60—80 | 120—140 | 60—80 | 80 | 85 |
| Мандарыны | 1900—2300 | 2000—2200 | 2000 | 1800—2100 | 1800 |
| Грэцкія арэхі | 1800 | 2000 | 1500 | 1300—2100 | 1500—1700 |
| Яблыкі | 400—650 | 450—800 | 400—600 | 420—500 | 400—450 |
| Маянэз | 250—450 | 240—420 | 250—420 | 240—450 | 310—500 |
| Вінаград | 4000 | 3800—5000 | 4000 | — | — |
| Хурма | 2500 | 2000—2300 | — | — | 2200—2300 |
| Часнок | 1600 | 1800 | 1000 | 800 | 700—800 |
| Лімоны | 1450—1500 | 1400—1600 | 1700 | 1450 | 1300—1400 |
| Апельсіны | 1200—1400 | 1200—1300 | 1300 | 1400 | 1300 |
| Бананы | 1200—1400 | 1000—1200 | 1200 | 1450 | 1200 |
| Гранаты | 1900 | 1900 | 1800 | 1600—1800 | 1850—1900 |
| Грэчка | 550—600 | 650 | 550—600 | 700 | 600 |
| Макар. вырабы | 520—560 | 500—560 | 550 | 500—600 | 600—650 |
| Рыс | 500—540 | 500—520 | 550 | 550 | 600 |
| Манныя крупы | 500 | 460 | 500 | 500 | 530 |
| Проса | 320—350 | 330 | 380 | 400 | 380—400 |
| Цукар | 580 | 600 | 600 | — | 600 |
| Мёд | 4.000 | 4.000 | 3.600 | 4.000 | 3.800-4.100 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1310 | 1350 | 1300 | 1330 | 1300 | 1400 | — | — | 1270 | 1330 |
| 1 дойчмарка | 590 | 600 | 580 | 610 | 580 | 610 | — | — | 580 | 600 |
| 1 рубель Расіі | 43 | — | 44 | 46 | 44 | 49 | — | — | 44 | 48 |

# 25 САКАВІКА — 83 ГАДЫ АБВЯШЧЭННЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БНР

Калі лютаўская рэвалюцыя 1917 г. у Расіі ліквідавала царскае самаўладдзе, якое больш за стагоддзе вынішчала ў нас усё беларускае, і расійскі Часовы Урад абвясціў права народаў на самавызначэнне, беларускі рух, што існаваў і дагэтуль, незвычайна ажывіўся. Па ўсей Усходняй і Цэнтральнай Беларусі, ва ўсіх цэнтрах Расіі, усюды, дзе толькі былі закінутыя лёсам беларусы (ішла першая сусветная вайна, і Заходняя Беларусь была занятая немцамі), паўставалі беларускія арганізацыі. У Маскве, напрыклад, — моцная "Беларуская Народная Грамада", якая гуртавала беларускія арганізацыі бежанцаў, аднавіла сваю дзейнасць заснаваная ў 1902 г. Беларуская Сацыялістычная Грамада — БСГ. На ўсіх тагачасных расійскіх франтах — арганізацыі беларусаў-вайскоўцаў (якія пазней правялі франтавыя беларускія з'езды і стварылі Цэнтральную Беларускую Вайсковую Раду — ЦБВР).



Мітынг на пл. Бангалор у Мінску 25 сакавіка 2000 г.

25–27 сакавіка 1917 г. у Мінску канферэнцыя беларускіх арганізацый і партый пастанавіла імкнуцца да аўтаноміі Беларусі ў складзе Федэратыўнай Расійскай Рэспублікі і выбрала Беларускі Нацыянальны Камітэт, пераўтвораны пазней у Цэнтральную Раду, а затым у Вялікую Беларускую Раду ўсіх беларускіх арганізацый і партый, якая склікала на 5 снежня 1917 г. Усебеларускі З'езд.

На 15 снежня з'ехалася 1812 дэлегатаў (з якіх 1167 з пастаноўчым, а 705 — з дарадчым голасам): сяляне, вайскоўцы, рабочыя, прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Над трыбунай вісеў нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг. У Раду з'езду абралі 71 прадстаўніка ад усіх прысутных на з'ездзе груповак і аб'яднанняў, старшынёй кангрэсу — прафесара І. Сераду. Адразу ж выявіліся 2 групы: "незалежнікі" і "абласнікі". Але пакрысе бакі шукалі агульную мову, і ўначы з 17 на 18 снежня на пленарным паседжанні была цалкам зачытана агульная рэзалюцыя. Кангрэс паспеў аднагалосна прыняць толькі першы пункт рэзалюцыі, які абвяшчаў Беларусь дэмакратычнай рэспублікай і абвяшчаў стварэнне са свайго складу Усебеларускай Рады сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, як органа ўлады краю (адмаўляючыся гэтым прызнаваць уладу бальшавікоў).

Рада Усебеларускага з'езда папоўнілася прадстаўнікамі гарадоў і земстваў і 18. 03. 1918 г. была ператворана ў Раду БНР (старшыня І. Серада). На пленарным паседжанні з 24 па 25 сакавіка 1918 г. большасць Рады (якую складалі сябры БСГ) прыняла Трэцюю Устаўную грамату: " Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржаваю. Самі народы Беларусі, у асобе свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі... БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбавую перавагу беларускі народ, а ўласна: Магілёўшчыну, беларускія часці Міншчыны, Віленшчыны, Гарадзеншчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часткі суседніх губерняў, заселеных беларусамі..."

Сяржук РУСЕЦКІ.
г. Бяроза.

# "Вясна" адчыняе дзверы

З 6 па 11 сакавіка ў Жодзіна праходзіў семінар для журналістаў, на якім разглядалася праваахоўчая тэматыка. Сярод удзельнікаў была і аўтар гэтых радкоў. У адзін з дзён працы семінара да ўдзельнікаў наведаліся дзеячы праваахоўчага цэнтра "Вясна" — Алесь Бяляцкі, Валянцін Стэфановіч. Ім былі зададзены шматлікія пытанні. Вось што расказаў **Алесь БЯЛЯЦКІ** аб дзейнасці цэнтра:

— Мы паводзім сябе ў інфармацыйным полі вельмі актыўна і не чакаем, пакуль аб нас напішуць — самі пішам і рассылаем па ўсёй рэспубліцы звесткі аб тым, што, дзе і як робіцца ў краіне. У праваахоўчым цэнтры "Вясна" працуе грамадская прыёмная, якая займаецца канкрэтнай юрыдычнай дапамогай.

Канкрэтным вынікам дзейнасці "Вясны" можна лічыць і надаўна выдадзеную кнігу "Трагедыя на Нямізе". Яна мае каля 600 старонак, шмат здымкаў. Праваабарончы цэнтр мае цесныя сувязі с бацькамі загінуўшых дзяцей, на працягу ўсяго гэтага часу іх падтрымлівалі маральна, дапамагалі выстаяць у бядзе.

Зараз праваахоўчы цэнтр "Вясна" рыхтуецца да прэзідэнцкіх выбараў — ён рыхтуе назіральнікаў. Наглядальнікам, дарэчы, кожны можа быць. Ёсць дзве толькі ўмовы — паўналецце і добры стан здароўя.

Зараз арганізуюцца семінары для назіральнікаў. Ёсць дамовы аб прыбыцці замежных назіральнікаў, але іх прыезд ускладнены тым, што яны па заканадаўству павінны быць запрошаны альбо Цэнтрвыбаркамам, альбо міністэрствам замежных спраў.

У "Вясны" шмат і іншых спраў. Бо вельмі часта адчыняюцца дзверы будынка, у якім знаходзіцца праваахоўчы цэнтр.

Галіна СТРОЦКАЯ.
г. Баранавічы.

# Забытая і непатрэбная Канстытуцыя

## Прайшоўшае свята гэта толькі пацвердзіла

У адным з мінулых нумароў, напярэдадні свята, наша выданне звярнула ўвагу на тое, што ў нашай дзяржаве Дзень Канстытуцыі — вельмі ўмоўнае свята, што большасць з нас не памятаюць аб ім, а ўлады нічога не робяць для таго, каб мы ўшаноўвалі гэты дзень.

Чытаю газету "Івацэвіцкі веснік". У інфармацыі, якую, відаць, забылі падпісаць, паведамляецца, што "вось ужо пяты год наша краіна жыве па Канстытуцыі 1994 года..."

Чытаю "Советскую Белоруссию". У інфармацыі, якую напісала Людміла Маслюкова, паведамляецца, што "сегодня в седьмой раз мы отмечаем День Конституции..."

Дык колькі нашай Канстытуцыі гадоў?

Памятаю, як у адным з эпізодаў старога савецкага фільма для дзяцей адна расфуфыраная цётка даказвала суду, што, маўляў, яна добрая, яна вельмі любіць і шануе сваё дзіця. Суддзя ёй задаў толькі адно пытанне: "Ці ведаеце вы хоць колькі вашаму дзіцяці гадоў?" Цётка запнулася, пачала блытацца, скакаць з лічбы на лічбу.

Ці не тое мы назіраем зараз? Каму павінна быць сорамна?

Аляксандр МІХАЛЕНКА.

# И выпить, и закусить

Необычным путём решили вопрос о выдаче зарплаты в Линовском сельпо. На складах магазинов залежался алкогольный напиток "Орфей". Вот по три бутылки этого питва с просроченным сроком годности и получили работники вышеназванной организации в качестве части зарплаты за январь. Теперь же снова скопилась задолженность по зарплате, а на складах залежалось польское сало.

Екатерина НОВИК.
г. Пружаны.

# Дружить будем городами

В двух крупнейших городах Сербии - Белграде и Нише - планируется провести Дни белорусской культуры. Предварительная договоренность об этом была достигнута в феврале нынешнего года между представителями общественных инициатив Барановичей, сербской общественной организации "Protecta" и мэрией города Ниш. Будут также организованы стажировки в Сербии лидеров общественных организаций и журналистов из Барановичей.

БелаПАН.

# Хто можа зрабіць наша жыццё лепшым?

## Разважаюць жыхары горада Бяроза



**АЛЕНА:** Людзі павінны самі ўладкаваць сваё жыццё. Кепска жывем? Дык мужчыны п'юць, у грамадстве — поўная разбэшчанасць. Ад прэзідэнта мала што залежыць. Усё ад нас залежыць.



**САША:** Ніхто. Я разлічваю сам на сябе. Прадпрыемствы нашага горада перажываюць цяжкія часы, зарплаты невялікія. На нашага "бацьку" і на іншую ўладу я не разлічваю.



**ІНА:** На дзяржаву не разлічваю. Адзінае добра, што "дзіцячыя" сталі плаціць крыху большыя. Крэдыты на будаўніцтва жылля даюць пад такія працэнты, што браць іх — вар'яцтва.



**ІГАР, ЮРА:** Наша жыццё можам зрабіць лепшым толькі мы самі. Як у песні, разлічваем: "На крепость рук, на руки друга и вбитый крюк. И ещё — чтобы страховка не подвела".



**СВЕТА:** На мужа разлічваю. Больш няма на каго. Я слухаю выступленні прэзідэнта і ніякай эйфарыі яго прамовы ў мяне не выклікаюць. Надакучыла чакаць дабра ад кагосьці.



**МІКОЛА:** У самай меншай ступені разлічваю на сённяшнюю ўладу. Нармальная ўлада дае людзям магчымасць жыць нармальна, зарабляць грошы, быць гаспадарамі свайго лёсу.

У народ хадзілі Аляксандр ГОРБАЧ, Мікалай СІНКЕВІЧ (фота).

# "МЫ ХОЧАМ ЕСЦІ ЯКАСНЫ ХЛЕБ",

## — патрабуюць жыхары Івацэвіччыны

**Наша газета ўжо неаднойчы пісала пра хлеб, што выпякаецца ў Івацэвічах, на мясцовым хлебазаводзе. На жаль, не з лепшага боку. Жыхары раёна скардзіліся на дрэнную якасць хлебабулачных вырабаў. Гэтыя публікацыі, як правіла, заўважалі хлебапёкі, і, канешне, адразу рэагавалі.**

**"Вы зразумейце нас, — гаварылі яны, — у якіх умовах мы працуем. Завітайце, калі ласка, да нас, паглядзіце і ўпэўніцеся, у чым справа..."**

**Прыйшлося пабываць на хлебазаводзе.**

Камбінат кааператыўнай прамысловасці. Гэта філіял Івацэвіцкага раённага спажывецкага таварыства. У яго ўваходзяць: Івацэвіцкі хлебазавод, Целяханскі і Быценскі ўчасткі камбіната. Гэтыя назвы патрабуюць удакладнення. У Івацэвічах, акрамя хлебазавода, працуе цэх безалкагольных напіткаў. Такі ж цэх ёсць у Целяханах. Тут жа дзейнічаюць хлебапякарня і рыбакапцільны цэх. У Быцені працуюць кандытарскі цэх і хлебапякарня.

Сорак гадоў таму ў Івацэвічах мясцовая хлебапякарня пачала выпускаць сваю прадукцыю. Мінуў час, і ўжо хлебазавод працягвае працаваць і карміць людзей. Кожны дзень мы маем на нашым стале хлеб, выпечаны ў Івацэвічах, Целяханах і Быцені.

— Хто ў нас не быў і не ўнікаў у справы, той можа сказаць, што мы працуем з халадком, — зазначае галоўны інжынер камбіната Аляксандр Міхайлавіч Грынчык. — Абсталяванне ў нас дапатопнае, зношанае, латанае і пералатанае. Яно даўно ўстарэла і фізічна, і маральна. Людзі працуюць больш на ўласным энтузіязме. Была б гэта іншая вытворчасць, даўно б яе закрылі...

Сапраўды, закрыць хлебазавод — гэта значыць пакінуць людзей без хлеба. Гэта было б надзвычайным здарэннем. Але ж тое, што ў суткі (завод працуе кругласутачна) тут выпякаецца 12 тон хлебабулачнай прадукцыі, з іх 7—8 тон складае хлеб, гаворыць само за сябе. Людзі не апускаюць рукі перад цяжкасцямі. Яны бачаць свае недахопы, не адмаўляюцца ад іх, хваравіта перажываюць кожную няўдачу.

Аб якасці прадукцыі пастаянна клапоцяцца спецыялісты камбіната і перш за ўсё работнікі вытворчай лабараторыі (начальнік В. А. Казлякоўская). Каб больш наглядна паказаць гэта, звернемся да лічбаў.

За мінулы год, напрыклад, непасрэдна на камбінаце забракавана і адпраўлена на перапрацоўку 2508,8 кілаграма хлебабулачных вырабаў.

Ніхто, вядома, не застрахаваны ад недахопаў. Здаралася, што і няякасная прадукцыя (хлеб, батоны) траплялa на гандлёвыя прылаўкі. Такога не адмаўляе і кіраўніцтва камбіната.

Варта зазначыць і тое, што часам не ўся прадукцыя камбіната прадаецца. Так, у лютым гэтага года ў гандаль было пастаўлена 319 тон хлебабулачных вырабаў, у тым ліку палепшаных гатункаў — 6,5 тоны. Вернута з гандлёвых прадпрыемстваў 1,6 тоны хлеба, батонаў, іншай прадукцыі, тэрміны рэалізацыі якой скончыліся.

Цікавы такі факт. 411 кілаграмаў вернутага хлеба (а гэта 25,7 працэнта), былі палепшаных гатункаў. З гэтага сам па сабе напрошваецца вывад: спажыўцам патрэбны больш танны хлеб. Не ўсе могуць купляць па больш высокай цане хлеб палепшаных гатункаў. Гэта тлумачыцца нізкімі заробкамі нашых грамадзян.

Нават такое невялікае вяртанне хлебабулачнай прадукцыі з гандлёвай сеткі (прыкладна паўпрацэнта ад месячнага выпуску) адчувальна для камбіната. Напрыклад, на той "возврат" было зрасходавана 1135 кілаграмаў мукі, кошт прадукцыі з яе склаў 418061 рубель. Як бачым, нямала.



Старэйшая работніца камбіната, тэхнолаг Вера Міхайлаўна Жылінская.



Святаслаў КАЖАДУБ.

У цэху хлебазавода.

Дарэчы, такі вернуты хлеб не выкідваецца, а ідзе на перапрацоўку. На камбінаце выпякаецца і так званы танны хлеб. Для яго выпечкі, акрамя вернутага хлеба, выкарыстоўваецца мука ніжэйшых гатункаў. Гэта не выдумка хлебапёкаў. Ім даецца "зверху" ўказанне, каб 30 працэнтаў такога хлеба паступала ў гандаль іменна для бедных людзей. А затраты на гэтую прадукцыю большыя, чым агульная цана самога хлеба. Праўда, такія затраты раз у два месяцы кампенсуюцца з абласнога бюджэту.

Як ужо адзначалася, затраты на выпуск хлебабулачнай прадукцыі вялікія, і яны з кожным днём павялічваюцца. Па-першае, абсталяванне ўжо не адпавядае патрэбам сённяшняга дня, а, па-другое, пастаянна даражэюць энерганосьбіты. Ці ёсць выхад з такога становішча? Ёсць. Гэта будаўніцтва новага хлебазавода. Яшчэ дзесяць гадоў таму (да развалу СССР) у Івацэвічах пачалося ўзвядзенне такога завода. За гэты час пабудавана толькі "каробка". Была яшчэ тады закуплена частка абсталявання, якое за мінулыя гады ўстарэла, стала псавацца і тое-сёе з яго прыйшлося прадаць. Зараз будаўніцтва зусім заглухла. Прычына адна: няма на гэта грошай ні ў раённым, ні ў абласным, ні ў рэспубліканскім бюджэце. Надзея толькі на інвестыцыі. Аднак пакуль палітыка нашай дзяржавы будзе такая, як сёння, нам, па ўсім відаць, не дачакацца тых інвестыцый. Што ж рабіць далей?

— Наш хлебазавод працуе з прыбыткам, — гаворыць А. М. Грынчык. — Гэтыя сродкі ідуць на падтрыманне наяўнага абсталявання, на рамонты, на асваенне новых відаў прадукцыі. Зараз мы выпускаем 26 назваў хлебабулачных вырабаў. Крэдытаў на будаўніцтва хлебазавода браць ніяк не выпадае, таму што не зможам аплаціць нават працэнтаў па іх. А гэта немінучае разарэнне таго, што ёсць. Таму і не дзіўна, што на будоўлі зараз ціха...

Новы хлебазавод патрэбен, як паветра, каб вырашыць усе праблемы якасці прадукцыі і паменьшыць яе сабекошт, а таксама стварыць нармальныя умовы для работы ўсяго калектыву. Дарэчы, касцяк работнікаў на камбінаце даволі стабільны, цякучасці кадраў амаль няма. Зарплата месячная вагаецца ад 50 да 70 тысяч рублёў і выплачваецца своечасова.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**г. Івацэвічы.**

# НА СЯМІ ЗЛЫХ ВЯТРАХ...

## змагаецца за жыццё і здароўе сям'я з Белаазёрска

**Валянціна была, мабыць, самай шчаслівай жанчынай у свеце. У яе было пяцёра цудоўных дзетак, каханы муж Анатоль, любімая праца. І, нарэшце, праз доўгія 12 гадоў сям'я перасялілася ў вялізную чатырохпакаёвую кватэру. З трапяткой любоўю ўсе яны абжывалі новы і цяпер ужо надзейны і пастаянны куточак. Вечарамі, калі ўся сям'я была ў зборы, бацька іграў на гітары і спяваў... Разам яны строілі вялікія планы, марылі аб'ездзіць усю Беларусь, наведаць музеі і тэатры, адпачыць на Нарачы...**

Але ўсё гэта ў адзін цудоўны дзень раптоўна абарвалася. 24 чэрвеня 1995 года, у светлы летні дзень, калі ўся прырода была ў самай яркай квецені, трагічна загінуў Анатоль. Ён і сам, як і прырода, быў у росквіце свайго жыцця, на вяршыні чалавечага шчасця.

І цёмна стала ў такой сонечнай раней кватэры. Знікла радасць, шчасце, смех, спевы пад гітару. Валянціна жыла як у сне. Ёй нічога не было цікава, яна перасялілася ў іншы свет, у свет абыякавасці, у якім нават дзеці страцілі ранейшую значнасць.

Ды час, як вядома, памаленьку лечыць любыя раны. Апомнілася і Валянціна: "Што ж я раблю, мне ж дзяцей падымаць трэба, мне ж дзеля іх трэба трымацца і жыць".



Валянціна Мікіціч са сваімі дзецьмі, Машанька (першая злева) яшчэ здаровая (год 1997).

І прытупілася боль, адышоў, глуха аддаваў у сэрцы. Валянціна ўвесь час успамінала былое, шмат думала, аналізавала, перагортвала старонкі свайго жыцця...

Гадавалася яна ў маці адна. Бацька пакінуў сям'ю, калі Валянціна была маленькай. Дзяўчынка так зайздросціла тым дзецям, у якіх быў бацька, былі браты і сёстры, змалку марыла аб вялікай і дружнай сям'і. І калі вырасла і пакахала — аказалася, што і муж прытрымліваецца такой жа думкі. З якой радасцю і нецярпеннем яны чакалі кожнае дзіця! Першай нарадзілася Наташка, затым Алёнка, Дзіма, Ванюша і, нарэшце, — Машанька. Дзеткі раслі чулымі, добрымі, працавітымі, клапатлівымі. Было ў каго павучыцца: паміж бацькам і маці былі самыя шчырыя і пяшчотныя адносіны.

Яны не дзялілі паміж сабой ніякай працы. Анатоль уставаў ноччу да дзіцяці, варыў есці, падаваў на стол гатовае і гарачанькае, калі Валянціна вярталася з працы. Выпраўляў яе пагуляць, калі яна была ў дэкрэтным адпачынку, а ён вяртаўся з завода. Каханне і ўзаемапавага — вось тыя камяні, на якіх будавалася іх шчаслівае сямейнае жыццё.

Валянціне, вядома, хапала працы і дома, і ў дзіцячым садку, дзе яна працавала выхавальніцай якраз у групе сваёй меншанькай — Машанькі. Дачушка расла разумненькай, вясёлухай, танцоркай. Скончыла падрыхтоўчы клас, пачала вучыцца ў першым...

І зноўку так раптоўна, як і пяць гадоў назад, — страшная, нечаканая вестка — хвароба: астэагенная саркома (злаякасная пухліна) нагі дзяўчынкі. Прыйшлося ехаць у такія страшныя ўсім Бараўляны.

Зноўку чорныя-чорныя дні, вочы, поўныя слёз, вострыя стрэлы ў сэрца, неймаверна доўгія і, здаецца, вечныя ночы...

Першая "хімія"... Трое пакутлівых сутак трэба ляжаць пад кропельніцай... Цяжкі, гарачы, нясцерпны боль адной і яшчэ больш пякельны, невымерны — другой. Трэба купляць дарагія лекавыя прэпараты, каб не ванітавала, нельга пакінуць дачушку ні на хвіліну...

І ўсё ж уратаваць ножку не ўдалося... Цяпер Машанька замест дзвюх мае ажно тры ножкі — скача на мыліцах. Пасля ампутацыі прыехала на пабыўку дадому, у Белаазёрск. Лысенькая, адны вачаняты бліскаць, але аптымістка бязмерная. Пабачылася з сястрой (старэйшая, Наташа, ужо вучыцца ў Мінску ва ўніверсітэце і, вядома, часта прыязджае ў бальніцу) і братамі, з сябрамі, суседзямі. А заўтра — зноў у Бараўляны, на новыя "хіміі", да надзеі і перамогі.

Божа, дай ім, дачушцы і маці, моцы перажыць усе гэтыя пасланыя нам Чарнобылем выпрабаванні. Божа, дай гэтай светлай дзяўчынцы здароўе — самы бясцэнны дар, які ёсць у Прыродзе.

**Ад рэдакцыі.** Калі нехта з прадпрымальнікаў ці іншых асобаў знойдзе магчымасць аказаць фінансавую дапамогу сям'і Мікіціч, просьба — тэлефануйце да нас, у "Газету для вас", па тэлефоне 8-245-2-12-29.

**Раіса ЖМАЧЫНСКАЯ,**
**старшыня Белаазёрскай гарадской грамадскай арганізацыі шматдзетных сем'яў "Дзеля будучыні".**

Лідзія ЦАЛУЙКА

# СУСТРЭЧА З АМЕРЫКАЙ

**Нядаўна група беларускіх журналістаў пабывала ў Злучаных Штатах Амерыкі па запрашэнню ўрада гэтай краіны. Мэта трохтыднёвага візіту — азнаямленне з работай друкаваных сродкаў масавай інфармацыі ў ЗША. У складзе групы была і галоўны рэдактар "Газеты для вас" Лідзія Цалуйка. Сёння мы прапануем вашай увазе, паважаныя чытачы, яе нататкі-уражанні ад сустрэчы з вялікай краінай і яе людзьмі.**



**Знакамітая статуя Свабоды, нязгасны факел у руцэ якой імкнецца ўбачыць кожны, хто прыбывае у Нью-Йорк...**

## "Занадта шмат свабоды..."

Мэта візіту вызначыла і асноўнае кола нашых сустрэч у Амерыцы: мы пабывалі ў вялікіх, лакальных і студэнцкіх газетах, сустракаліся з рэдактарамі і журналістамі ў гарадах Вашынгтоне, Балціморы (штат Мэрыленд), Шарлоцце (штат Паўночная Караліна), Грынэллі (штат Айова), Сан-Францыска (штат Каліфорнія) і, нарэшце, у Нью-Йорку. Аднак праграма візіту была пабудавана так, што група змагла пазнаёміцца са славутымі месцамі названых гарадоў, іх духоўнымі каштоўнасцямі, пабываць на экскурсіі ў Капітоліі Злучаных Штатаў, Пентагоне, ААН, знакамітым і адзіным у свеце музеі навін "Ньюзей", Ракфеллерцэнтры... Мы наведвалі ўніверсітэты і школы, фабрыкі, бібліятэкі, дом састарэлых, магазіны, сем'і амерыканцаў і гутарыць з імі ў неафіцыяльнай абстаноўцы. Мы пабывалі на ўзбярэжжы Ціхага акіяна і любаваліся марскімі коцікамі ў гавані Сан-Францыска, былі літаральна ашаломлены грандыёзным шоу ў адным з тэатраў на Брадвеі ў Нью-Йорку, некалькі дзён і вечароў зліваліся з людскім шматгалоссем і шматнацыянальным натоўпам вуліц Манхэттана ў Нью-Йорку...

Калі на адной з апошніх сустрэчаў у рэдакцыі буйнейшай газеты ЗША "Нью-Йорк Таймс" амерыканскі калега па пяру запытаўся, што ўразіла групу найбольш, у аднаго з нас вырвалася шчырае прызнанне:

— Занадта шмат свабоды!..

Амерыканскі калега здзіўлена ўзняў бровы і ўсміхнуўся, а кожны з нас у душы пагадзіўся з гэтым прызнаннем. Мы ж прыехалі ў ЗША з Беларусі, дзе газеты падзяляюцца на дзяржаўныя і недзяржаўныя, журналісты — на чэсных і нячэсных, а газеты павінны раз-пораз праходзіць дарагакаштуючую перарэгістрацыю, якая, дарэчы, вядзецца і цяпер. Дзе журналісту з недзяржаўнай газеты любы чыноўнік ад улады насуперак існуючаму заканадаўству можа адмовіць у інфармацыі, а Дзяржаўны камітэт па друку — у рэгістрацыі газеты ці часопіса толькі па той прычыне, што іх рэдакцыя не ўзгадніла сваё месцазнаходжанне з мясцовымі ўладамі...

Цяжка, напэўна, амерыканскаму журналісту зразумець становішча незалежнай прэсы ў Беларусі, бо ў ЗША нават не існуе міністэрства інфармацыі, якое б займалася рэгуляваннем журналісцкай дзейнасці. Журналісты ў Амерыцы вызвалены ад неабходнасці мець ліцэнзіі, яны не абавязаны быць членамі прафесіянальнага саюза. А адкрыццё газеты выглядае ўвогуле да смешнага проста: чалавек піша заяву ў мэрыю, плаціць за рэгістрацыю 50 долараў і пачынае выпускаць свае выданне.

Адпраўны пункт традыцый свабоднай прэсы ў Амерыцы пачынаецца з першай папраўкі да Канстытуцыі Злучаных Штатаў, якая гучыць так:

"Кангрэс не павінен выдаваць ніводнага закона, які адносіцца да вызначэння рэлігіі або забараняючага свабоднае веравызнанне яе, альбо абмяжоўваючага свабоду слова ці друку, альбо права народа мірна збірацца і звяртацца да ўрада з петыцыямі аб задавальненні скаргаў". Фармулюючы гэтую папраўку, бацькі-заснавальнікі Амерыкі падцвердзілі вяршэнствуючае права грамадзян на атрыманне інфармацыі па ўсіх аспектах цікавячых іх праблем без усялякага ўмяшання з боку ўрада.

Трэба сказаць, што амерыканская традыцыя свабоднай прэсы падвяргалася і падвяргаецца нападкам з боку асобных грамадзян краіны і нават урада тады, калі размова ідзе аб журналісцкіх расследаваннях і крытыцы асобных людзей альбо ўтварэнні пагрозы для нацыянальнай бяспекі (напрыклад, публікацыі сакрэтных дакументаў Пентагона). Такія справы, як правіла, разглядаюцца ў судах, у тым ліку ў Вярхоўным Судзе ЗША, і апошнія ў большасці выпадкаў аддаюць перавагу довадам прэсы, прадастаўляючы ёй магчымасць працягваць сваю справу. Прэса сапраўды свабодная ад усялякага ціску.

## На першым месцы — спорт

Цяпер у ЗША выходзяць больш за 12 тысячаў газетаў (штодзённых, нядзельных, штотыднёвых, ранішніх і г. д.). Большасць штодзённых газет сапраўды выходзяць кожны дзень пры любых абставінах, у тым ліку на Ражаство, Дзень падзякі і 4 ліпеня (Дзень незалежнасці) — вялікія нацыянальныя святы. Гэта — сапраўдныя фабрыкі інфармацыі, аб'ём буйнейшых з іх ("Нью-Йорк таймс", "Вашынгтон пост", "Сан-Францыска кронікал" і інш.) дасягае некалькі соцен старонак. Чытанне нядзельнай газеты з'уляецца амерыканскай традыцыяй, прыроўненай некаторымі амерыканцамі да наведвання царквы.

У адрозненне ад беларускай, прэса Амерыкі непалітызавана (што нас, звыклых да палітычных "баёў", таксама ўражвала). "Што больш за ўсё любяць чытаць амерыканцы?", — пыталіся мы ў сваіх амерыканскіх субяседнікаў. І чулі ў адказ: пра спорт, навіны, бізнес, хатнія справы, коміксы... Гэтым тэмам адпаведна аддаюць перавагу і газеты. Такая пазіцыя самым натуральным чынам ужываецца з любоўю да сваёй краіны, сцяга, арміі і абранага прэзідэнта. І такім жа натуральным з'яўляецца крытычнае стаўленне да асобы чалавека, які становіцца прэзідэнтам. У Грынэллі (штат Айова) мы пабывалі ў сям'і адстаўнога ваеннаслужачага, які з вялікай грэблівасцю адгукаўся аб любоўных паходжаннях Біла Клінтана і гаварыў аб неабходнасці захавання норм высокай маралі тымі людзьмі, якія прыходзяць да ўлады. А Эл Піндэр, рэдактар і ўладальнік мясцовай газеты "Грынэлл Геральд Рэджыстэр", якая выходзіць два разы на тыдзень дзесяціцячным тыражом, закрануў гэтую ж тэму фрывольным анекдотам аб мужчынскіх якасцях Біла Клінтана. На экскурсіі па Вашынгтону мы сустрэліся і разгаварыліся з эмігранткай з Кіева, якая жыве ў ЗША каля 10-ці гадоў. Яна разачаравана сённяшнім прэзідэнтам Джорджам Бушам, які, па яе словах, дрэнна вучыўся ў маладосці і прачытаў вельмі мала кнігаў...

## Усёвідушчае вока

Сродкі масавай інфармацыі ў ЗША — гэта нядрэмнае і ўсёвідушчае вока, пад кантролем якога знаходзіцца ўсё, пачынаючы з асабістага жыцця грамадзян і заканчваючы Кангрэсам і Пентагонам. Кангрэс ганарыцца тым, што ў будынку Капітолія, дзе ён размяшчаецца, амаль няма абмежаванняў для наведвальнікаў. Капітолій адкрыты сем дзён у нядзелю, за выключэннем Дня падзякі, Ражаства і Новага года. У ліку іншых наведвальнікаў, мы прынялі ўдзел у экскурсіі па Капітолію, агледзелі мастацкія творы і гістарычныя памяшканні, пабывалі на яго галерэях, у тым ліку на галерэі, адведзенай для прадстаўнікоў друку і сродкаў масавай інфармацыі. За рэдкімі выключэннямі пасяджэнні Сената, Палаты прадстаўнікоў і іх камітэтаў адкрыты для прэсы і публікі. Хроніка дзейнасці Кангрэса трансліруецца па тэлебачанні на ўвесь свет. Грамадзяне ЗША, у якіх узнікаюць канкрэтныя пытанні наконт Капітолія ці работы Кангрэса, заўсёды могуць напісаць аднаму з сваіх сенатараў ці кангрэсменаў.

Час нашага знаходжання ў Вашынгтоне супаў з інцыдэнтам сутыкнення амерыканскай падводнай лодкі з японскім рыбалоўным траўлерам. І наша група мела магчымасць прысутнічаць на брыфінгу ў Пентагоне, прысвечанаму гэтаму здарэнню, на якім контр-адмірал Крэйг Кіглі і іншыя ваенныя высокія чыны адказвалі на пытанні журналістаў. Пентагон, у сценах якога размяшчаецца штаб-кватэра Міністэрства абароны ЗША і які з'яўляецца агульнапрызнаным сімвалам амерыканскай магутнасці і ўздзеяння ва ўсім свеце, адкрыты для наведвальнікаў і экскурсій. Штогод Пентагон наведвае прыблізна 100000 мясцовых і замежных гасцей, экскурсаводамі якіх з'яўляюцца гвардзейцы ўзброеных сіл краіны, якія нясуць ахову будынка Міністэрства абароны. Адзін з іх быў і нашым гідам. Ён правёў нас па мемарыяльных залах, азнаёміў з экспазіцыямі, якія прысвечаны розным ваенным аперацыям і героям, якія былі удастоены вышэйшай узнагароды — ордэна славы.

## Цярпімасць — вера амерыканцаў

"Занадта шмат свабоды!" — усклікнуў, як было сказана вышэй, адзін з членаў нашай групы. І потым патлумачыў гэты вокліч уражаннямі ад адкрытасці рэжымных аб'ектаў на чале з Пентагонам.

Так, адкрытасць улады і грамадства адчуваеш на першых жа кроках знаходжання ў ЗША. Але мяне асабіста больш за ўсё ўразіла ўнутранае адчуванне свабоды, якое ўласціва шматнацыянальнаму народу Амерыкі. Дарэчы, сярод яго нямала рускіх, пад якімі тут падразумяваюцца выхадцы з усіх рэспублік былога СССР, якія гавораць на рускай мове. Цяпер іх налічваецца больш за два мільёны, і мы сустракалі іх, размаўлялі з імі ў розных гарадах ЗША. Запомнілася сустрэча са студэнтам каледжа ў Грынэллі Андрэем, маці якога — беларуска, выйшла замуж за грамадзяніна Кувейта, з якім выехала спачатку ў гэту краіну, а потым — у ЗША. Андрэй размаўляе на чыстай беларускай мове і марыць папрацаваць у дыпламатычных колах Беларусі і наблізіць яе да свабоды і дэмакратыі. Мы пажадалі яму ўдачы, і родная Беларусь падалася нам такой далёкай і мілай!

Успомнілася, як людзі ў нашых вёсках пры сустрэчы з незнаёмым чалавекам вітаюцца. Успомнілася таму, што прахожыя на вуліцах гарадоў ЗША, калі вы сустрэнецеся вачыма, абавязкова ўсміхнуцца вам і павітаюцца. Гэта — прынятая ў ЗША форма ветлівасці пры поўнай раскаванасці паводзін і высокім пачуцці годнасці і незалежнасці.

Неаднойчы ўспаміналі мы першую папраўку да Канстытуцыі ЗША, аб якой я ўжо гаварыла вышэй. Яна гарантуе асобе і ўсяму народу свабоду, і амерыканцы гэтым карыстаюцца ў поўнай ступені. Нават тады, калі, па нашых мерках, няма ніякай падставы для нейкай дэманстрацыі сваіх поглядаў і намераў. У Сан-Францыска мы былі сведкамі таго, як натоўп студэнтаў у неверагодных касцюмах, з размаляванымі тварамі, на хадулях, пад гукі барабанаў запоўніў скрыжаванне вуліцы. Калона аўтатранспарту і паліцэйскія цярпліва чакалі пакуль "хахмачы" пройдуць на тэрыторыю ўніверсітэцкага гарадка.

У Нью-Йорку, пасля таго, як мы пабывалі ў будынку ААН, дзе Хрушчоў грозіўся паказаць амерыканцам "кузькину мать", наведалі Ракфеллер-цэнтр, дзе пры 10-цігградуснай плюсавай тэмпературы працаваў каток, пабывалі на першым паверсе небаскроба, пабудаванага будаўнічым магнатам для сябе і багатых людзей горада (і ім гэтыя экскурсіі зусім не перашкаджаюць!), экскурсавод звярнула ўвагу на адзін з параўнальна невысокіх, але таксама шматпавярховы будынак, на даху якога стаяла вельмі ўжо знаёмая фігура з працягнутай уперад рукой.

— Пазнаеце? — спытала гід.

Мы пазналі. Як жа не пазнаць постаць "дарагога" Ільіча, якая абавязкова прысутнічала і прысутнічае яшчэ цяпер на ўсіх плошчах вялікіх і малых гарадоў Беларусі. Аказваецца, чалавек, які выставіў помнік на даху дома, дзе ён жыве, прывёз скульптуру з аднаго расійскага горада. Але пікантнасць сітуацыі заключаецца, па словах экскурсавода, у тым, што ў гэтым доме і дамах навокал жывуць нашчадкі тых рускіх, якія ратаваліся ад Леніна і яго ідэй бегствам з Расіі ў далёкім цяпер 1917 годзе... Цярпімасць — вера амерыканцаў!

**(Працяг будзе).**

